ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 36 (1673) | Пятніца, 4 мая 1962 года | Цана 4 кап.

# БУДАЎНІК І ВОІН

Заўтра — Дзень друку.

Гэта свята не толькі журналістаў і шматтысячнай арміі рабкораў і селькораў, а і ўсяго нашага народа, які бачыць у савецкім друку вернага выразніка сваіх інтарэсаў.

Разам з Днём друку мы сёлета адзначаем і слаўны 50-гадовы юбілей «Праўды» — нашай старэйшай газеты, заснаванай вялікім Леніным. Гісторыя «Праўды» — гэта летапіс непахіснага служэння камуністычным ідэалам, летапіс натхнёнай барацьбы за ажыццяўленне ленінскіх запаветаў.

У змрочныя часы царызму, калі цёмная ноч рэакцыі панавала над краінай, «Праўда» была праменем сонца, яна несла працоўным слова Леніна, слова партыі, узнімала іх на рэвалюцыю, на змаганне супраць прыгнятальнікаў.

Рэвалюцыя перамагла, савецкі народ пачаў будаваць новае жыццё, і яму памагала ў гэтым «Праўда». Яна даходзіла ўсюды — на завод і фабрыку, на буйную будоўлю і ў далёкую вёсачку. Індустрыялізацыя краіны, калектывізацыя сельскай гаспадаркі, ажыццяўленне культурнай рэвалюцыі — усё гэта этапы вялікага шляху, пройдзенага краінай, і гэтыя этапы адлюстравала на сваіх баявых старонках «Праўда».

Вялікая Айчынная вайна... Над «Праўдой» схіляўся ў час перапынку паміж баямі салдат і афіцэр... З «Праўдой» у руках праводзіў палітрук інфармацыю ў роце... Як найкаштоўнейшы груз даставяў лётчык цераз лінію фронту пакункі «Праўды» нашым партызанам, і там, на часова акупіраванай ворагам зямлі, кожны экземпляр «Праўды» перабываў у сотнях рук... «Праўда» расказвала людзям аб падзеях на фронце і ў тыле, выкрывала чалавеканенавісніцкую сутнасць фашызму, усяляла веру ў нашу перамогу. На яе старонках выступалі выдатныя савецкія пісьменнікі, і іх палымянае слова, дзякуючы «Праўдзе», хвалявала мільёны сэрцаў...

На ўсіх этапах жыцця нашай краіны «Праўда» была на перадавой лініі. У гады ваенных нягод— як воін. У гады міру — як будаўнік і сейбіт. На яе старонках б'ецца пульс народнага жыцця, адлюстроўваюцца думы і пачуцці народа, жыве яго праўда. Гэта праўда новай эпохі, праўда камунізма.

У процівагу прадажнай, наскрозь хлуслівай капіталістычнай прэсе, якая служыць грашоваму меху, інтарэсам эксплуатататараў, газета «Праўда», як і ўвесь савецкі друк, вызначаецца глыбокай праўдзівасцю і прынцыповасцю, сапраўднай дэмакратычнасцю. Гэтым «Праўда» заваявала вялікую папулярнасць і за рубяжамі нашай краіны. Мільёны простых людзей свету знаёмяцца па «Праўдзе» з жыццём у Савецкім Саюзе, знаходзяць у ёй маральную падтрымку ў сваёй барацьбе за дэмакратыю, за мір паміж народамі, супраць імперыялістычных падпальшчыкаў новай сусветнай вайны.

«Праўда» — гэта голас вялікай партыі, на чыім сцягу накрэслены палымяныя і натхняючыя прынцыпы: Мір, Праца, Свабода, Роўнасць, Брацтва і Шчасце ўсіх народаў.

«Праўда» — гэта голас працавітага і міралюбівага народа, які назаўсёды стаў пад вялікі сцяг Камуністычнай партыі.

50 год «Праўды» — гэта мільёны выхаваных партыяй і яе газетай самадданых байцоў за будучыню, за ажыццяўленне камуністычных ідэалаў.

Вучачыся на прыкладзе «Праўды», рос і мацнеў увесь савецкі друк, народжаны рэвалюцыяй.

Дзякуючы клопатам Камуністычнай партыі, друк у нашай краіне стаў сапраўды масавым. На дзесятках моў выдаюцца ў нас газеты, часопісы, кнігі, іх тыраж з кожным годам павялічваецца. Роля друку ў нашым грамадстве надзвычай вялікая. І ў тым, што Савецкая краіна дасягнула сусветна-гістарычных поспехаў у развіцці эканомікі і культуры, ёсць заслуга і нашага друку — баявога і надзейнага памочніка Камуністычнай партыі.

Наша краіна прыступіла да разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства. Рашэнні XXII з'езда КПСС, новая Праграма партыі вызначылі ясны шлях да светлай будучыні.

Ажыццяўленне пастаўленых партыяй задач патрабуе самаадданай працы ўсіх савецкіх людзей. Будаўніцтва камунізма — гэта шпаркі рост эканомікі, гэта выхаванне новага чалавека, перабудова чалавечых узаемаадносін, быту, светапогляду людзей. Адсюль зразумела, якія вялікія і адказныя абавязкі савецкага друку. У цэнтры яго ўвагі павінны быць пытанні камуністычнага выхавання мас. Маральны кодэкс будаўніка камунізма, сфармуляваны ў Праграме партыі, — вось што знаходзіцца ў аснове дзейнасці нашага друку па камуністычнаму выхаванню працоўных. У гэтым кодэксе адлюстраваны камуністычныя ідэалы і прынцыпы, увасоблены маральныя нормы, выпрацаваныя рабочым класам і яго ленінскай партыяй, народжаныя рэвалюцыяй, сучасным этапам камуністычнага будаўніцтва. Змагацца за тое, каб гэтыя высакародныя прынцыпы і маральныя нормы станавіліся законам жыцця мільёнаў і мільёнаў савецкіх людзей, — якая гэта пачэсная і натхняючая задача савецкага друку.

Сустракаючы Дзень друку, мы, журналісты і пісьменнікі, задаём сабе пытанне: ці ўсё мы робім дзеля таго, каб найлепш выконваць гэтую задачу, ці ў поўную меру адпавядаюць беларускія перыядычныя літаратурна-мастацкія выданні высокім патрабаванням сённяшняга дня? І тут трэба шчыра прызнацца, што ў нашай рабоце ёсць нямала недахопаў. Галоўны з гэтых недахопаў — недастатковая сувязь з жыццём народа, і як вынік гэтага — мала з'яўляецца на старонках часопісаў высокамастацкіх твораў аб героях нашых дзён, будаўніках камунізма.

Ствараючы матэрыяльна-тэхнічную базу камуністычнага грамадства, савецкі народ стварае і культуру камунізма — новую, вышэйшую ступень у культурным развіцці чалавецтва. Партыя заклікае дзеячоў літаратуры і мастацтва, работнікаў культуры нястомна памнажаць духоўныя багацці грамадства. Праграма КПСС прадугледжвае далейшы магутны ўздым матэрыяльнай базы культуры: усямернае развіццё кнігавыдавецкай справы і друку, павелічэнне сеткі бібліятэк, клубаў, тэатраў, завяршэнне радыёфікацыі краіны, шырокае развіццё народных універсітэтаў, тэатральных калектываў і іншых самадзейных культурных арганізацый. Культурнае развіццё ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства з'явіцца завяршаючым этапам вялікай культурнай рэвалюцыі ў нашай краіне.

Быць актыўнымі праваднікамі культурнай рэвалюцыі, садзейнічаць ёй сваёю творчасцю, сваім удзелам у газеце — пачэсны абавязак пісьменніка і дзеяча мастацтва.

Па традыцыі, закладзенай «Праўдой» яшчэ на пачатку яе дзейнасці, савецкі перыядычны друк цесна звязаны з творцамі літаратуры і мастацтва, з'яўляецца іх высокай трыбунай. На старонках газет публікуецца многа вершаў, паэм, нарысаў. А паездка пісьменніка па заданню рэдакцыі газеты на будоўлю ці ў калгас, на завод для напісання карэспандэнцыі або нарыса — гэта ж таксама ўдзячная справа. Чытач заўсёды з радасцю сустракае ў газеце слова літаратара ці мастака. Удзел у газеце дапамагае ім глыбей унікаць у жыццёвыя з'явы, правільна разумець складаныя працэсы рэчаіснасці.

Неабходна мацаваць сувязі пісьменнікаў і дзеячоў мастацтва з газетамі, сумеснымі намаганнямі дабівацца большай іх баявітасці, глыбей узнімаць надзённыя праблемы развіцця эканомікі і культуры краіны.

Савецкі народ будуе камунізм, вырашае складаную, сусветна-гістарычную задачу станаўлення новага свету, самага справядлівага грамадскага ладу. Поспехі камуністычнага будаўніцтва нясуць багацце і радаснае жыццё ўсім, яшчэ вышэй узнімаюць магутнасць, гонар і славу нашай Радзімы. У змаганні за гэтыя поспехі актыўна ўдзельнічае савецкі друк — калектыўны прапагандыст, агітатар і арганізатар мас. Уся яго дзейнасць накіравана на тое, каб нашы прадпрыемствы, калгасы і саўгасы давалі больш прадукцыі, каб плённа развівалася наша культура, каб савецкі чалавек узбагачаўся ведамі, станавіўся мацнейшым і прыгажэйшым душою і розумам, каб ён быў акрылены высакароднымі ідэямі камуністычнага пераўтварэння жыцця.

Савецкі друк — сябра і дарадчык чалавека, неад'емная частка духоўнага жыцця народа.



ПЕРШАЕ МАЯ Ў МАСКВЕ. Дэманстрацыя прадстаўнікоў працоўных на Краснай плошчы.

Фота В. ГЕНДЭ-РОТЭ (ТАСС).

# МАГУТНЫ ПОСТУП

## ВАЕННЫ ПАРАД І ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПРАЦОЎНЫХ НА КРАСНАЙ ПЛОШЧЫ

У прыгожым убранні вясны і пунсовых сцягоў прачнулася савецкая сталіца ў дзень Першамая. Ужо ў раннія гадзіны на праспектах, вуліцах і плошчах загучалі музыка, песні. Па-святочнаму ўсхваляваныя выходзілі масквічы на ўрачыстасці ў гонар вечна юнага свята.

Масква з раніцы была поўная радасці, уласцівай ёй кіпучай энергіі і ажыўлення. У Першамай яна нібы ўвасобіла радасць ўсёй краіны.

Па-святочнаму прыбрана Красная плошча.

На гранітных трыбунах сабраліся партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, рабочыя і калгаснікі, прадстаўнікі навукі і культуры, многа замежных рабочых і прафсаюзных дэлегацый з усіх кантынентаў.

Хваля апладысментаў пракатваецца па плошчы, калі на цэнтральнай трыбуне з'явіліся кіраўнікі Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада.

На правым крыле Маўзалея—выдатныя военачальнікі—маршалы, адміралы і генералы.

У 10 гадзін пачынаецца ваенны парад. Міністр абароны СССР, Маршал Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскі прымае рапарт камандуючага парадам Маршала Савецкага Саюза Н. І. Крылова, затым аб'язджае воінскія часці, якія выстраіліся на Краснай плошчы, і віншуе іх са святам. Пасля гэтага Міністр абароны з трыбуны Маўзалея гаворыць прамову. Вялізарны зводны ваенны аркестр выконвае Гімн Савецкага Саюза. Грымяць залпы артылерыйскага салюта. Над плошчай разносіцца каманда да пачатку парада.

Шырокім маналітным строем ідуць слухачы ваенных акадэмій, ваенныя маракі, курсанты, салдаты і афіцэры войск МУС, выхаванцы суворaўскіх вучылішчаў, Нахімаўскага вучылішча.

Праходзіць баявая тэхніка. Адзін за адным імчацца па плошчы самаходныя бронетранспарцёры, аснашчаныя рэактыўнымі снарадамі. Гэтыя баявыя машыны—новае ўзбраенне нашай арміі, якое ўпершыню паказваецца на парадзе. Яны не ведаюць перашкод ні на вадзе, ні на сушы. Праносяцца аўтамашыны з дэсантнікамі—байцамі паветранай пяхоты. Магутнасць гэтых войск у нашы дні нязмерна ўзрасла. Яны цяпер аснашчаны новымі відамі ўзбраення, адзін з іх—магутныя самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі.

Сваю ўзрослую магутнасць дэманструюць на парадзе савецкія танкі і артылерыя. Ідуць звышмагутныя гарматы, здольныя ўзломваць любыя абарончыя ўмацаванні ворага.

Калону ваеннай тэхнікі, якая прайшла па Краснай плошчы, замыкалі ракетныя часці, аснашчаныя магутнымі балістычнымі ракетамі. У нашай краіне выраблены і пастаўлены на ўзбраенне глабальныя ракеты. Яны здольны дасягнуць любога пункта на планеце, падлятаючы да яго з любога напрамку. Гэтыя ракеты недасягальныя для проціракетнай зброі.

Ваенны парад на Краснай плошчы яшчэ раз пераканаўча прадэманстраваў магутнасць нашых Узброеных Сіл, іх гатоўнасць даць дастойны адпор любому агрэсару, забяспечыць мірнае жыццё будаўнікоў камунізма.

* * *

Пачынаецца дэманстрацыя прадстаўнікоў працоўных Масквы. Адкрываюць яе фізкультурнікі. «Праграма пабудовы камунізма будзе выканана!» — напісана на адным з транспарантаў. Лічбы напамінаюць аб велічных задачах новага 20-годдзя. Восем тысяч спартсменаў дружна ўсклікаюць:

— Мір, Праца, Свабода, Роўнасць, Брацтва, Шчасце!..

З мноствам рознакаляровых сцягоў, плакатаў, пано, вытворчых эмблем уступаюць на Красную плошчу дэманстранты.

У дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, у дзень адзінства і брацтва рабочых усіх краін масквічы звяртаюцца да іх са словамі інтэрнацыянальнай салідарнасці і прывітання. Аб гэтым гавораць незлічоныя плакаты і транспаранты. Савецкія людзі славяць сусветную сацыялістычную сістэму — дзецішча міжнароднага рабочага класа. Першамай кліча ўсіх прыгнечаных і абяздоленых да нястомнай барацьбы за лепшую долю, за канчатковае збаўленне ад аковаў каланіялізму і імперыялізму.

По Краснай плошчы ідуць тыя, хто выпускае аўтамабілі і станкі, маторы і прылады, тавары шырокага ўжытку, тыя, хто стварае электронныя машыны і касмічныя караблі, хто забяспечвае вёску навейшымі сельскагаспадарчымі машынамі.

Незвычайная ў гэтым годзе першамайская дэманстрацыя. Сёлета першая вясна, калі савецкія людзі пачалі ажыццяўляць рашэнні XXII з'езда партыі, прынятую ім праграму пабудовы камуністычнага грамадства. Вабячае заўтра становіцца сёння рэальнай рэчаіснасцю — мы ўступілі ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма. Усё цяпер залежыць ад нас саміх, ад нашай працы, энергіі, розуму.

У авангардзе людзей, якія апярэджваюць час, ідуць ударнікі камуністычнай працы. У калонах дэманстрантаў — вучоныя Акадэміі навук СССР, шматлікіх навукова-даследчых інстытутаў сталіцы. Гэта іх праца зрабіла казку быллю — пакарыла космас.

...Амаль тры гадзіны працягвалася маляўнічае, жыццярадаснае шэсце масквічоў. Гэта была хвалюючая маніфестацыя творчых сіл і энергіі будаўнікоў камунізма, якая гаварыла аб рашучасці ажыццявіць гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС, сведчанне непарушнага адзінства партыі і народа ў барацьбе за мір, за камунізм.

* * *

1 Мая Цэнтральны Камітэт КПСС і Урад СССР наладзілі прыём у гонар удзельнікаў парада і дэманстрацыі. Хвалюючай і душэўнай была гэтая сустрэча.

* * *

Радасна і ўрачыста адзначыла міжнароднае свята працоўных Першамай уся краіна.

Шматтысячныя дэманстрацыі, народныя гулянні адбыліся таксама ў Ленінградзе, Кіеве, Мінску, Фрунзе, Ашхабадзе, Душанбе, Таліне, Кішынёве, Ерэване, Волгаградзе, Горкім, Чалябінску і іншых гарадах. Яны з'явіліся новым яскравым сведчаннем росквіту творчых сіл савецкага народа, яго беззапаветнай адданасці роднай Камуністычнай партыі, ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту КПСС на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым.

Вечарам 1 Мая ў азнаменаванне свята ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве, у сталіцах саюзных рэспублік, а таксама ў гарадах героях — Ленінградзе, Волгаградзе, Севастопалі і Адэсе адбыўся артылерыйскі салют. (ТАСС).



ПЕРШАЕ МАЯ Ў МІНСКУ. Парад войск Мінскага гарнізона на Цэнтральнай плошчы.

# УРАЧЫСТАСЦІ Ў МІНСКУ

У гэтую раніцу сталіца рэспублікі выглядала асабліва цудоўнай у сваім святочным убранні, расквечаная пурпурам, чыста вымытая веснавымі дажджамі. Светлае свята Першамая прыйшло ў кожны дом, квартал, вуліцу. На фасадах дамоў лунаюць на ветры пунсовыя сцягі. Тое, што ў чалавека сёння ў сэрцы, ён напісаў вялікімі літарамі на лозунгах і плакатах. Гэта — словы аб любві і непадзельным даверʼі да партыі, аб барацьбе за пабудову самага справядлівага, разумнага і цудоўнага грамадства на зямлі. У святочным убранні знайшлі сваё адлюстраванне рашэнні XXII з'езда КПСС, заклікі роднай Камуністычнай партыі да савецкага народа цвёрдым поступам па ленінскаму шляху ісці ў камуністычнае заўтра.

Са славай закончылі перадмайскую працоўную вахту працаўнікі сталіцы рэспублікі. У параўнанні з першым кварталам мінулага года прадпрыемствы горада павялічылі вытворчасць электраэнергіі, аўтаматычных ліній, аўтамабіляў, металарэзных станкоў, тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў. Пашыран выпуск тканін, абутку, прадуктаў харчавання. І сёння калектывы заводаў і фабрык рапартуюць аб поспехах, дасягнутых у чацвёртым годзе сямігодкі.

Вялікую працоўную перамогу атрымалі трактарабудаўнікі. Яны, не спыняючы вытворчасць, перайшлі на выпуск трактараў «МТЗ-50П». Калгасы і саўгасы краіны атрымалі ўжо тысячы новых першакласных машын, якія акажуць ім вялікую дапамогу ў барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў сакавіцкага Пленума ЦК КПСС.

Дастойны падарунак Першамаю падрыхтавалі мінскія станкабудаўнікі. Датэрмінова выраблена аўтаматычная лінія для Волгаградскага трактарнага завода. Завершана выпрабаванне такой лініі для мінскіх трактарабудаўнікоў. Слаўнымі справамі сустрэлі свята калектывы падшыпнікавага завода, камвольнага камбіната, абутковых прадпрымстваў, чыгуначнікі.

Лакаматыўныя брыгады Беларускай магістралі правялі з пачатку года каля 30 тысяч цяжкавагавых паяздоў, у якіх звыш плана перавезена амаль 6 мільёнаў тон народнагаспадарчых грузаў.

Калектывы прамысловых прадпрыемстваў горада ўносяць дастойны ўклад у стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма. Яны ідуць наперад пад ленінскім сцягам, дэманструючы беззапаветную адданасць роднай партыі.

Незвычайна ціхая і ўрачыстая ў чаканні святочнага парада Цэнтральная плошча Мінска. Яна быццам прыслухоўваецца да гукаў музыкі аркестраў, якія даносяцца з далёкіх кварталаў. Строгая прыгажосць шырокай плошчы, толькі адзначанай пункцірамі пунсовых вымпелаў, не парушана ніводным лішнім штрыхам. Над трыбунамі, куды запрошаны знатныя людзі горада, — партрэты Карла Маркса і Уладзіміра Ільіча Леніна, Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, членаў Прэзідыума ЦК КПСС.

На цэнтральную трыбуну падымаюцца кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі К. Т. Мазураў, старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў і іншыя кіруючыя партыйныя і савецкія работнікі рэспублікі.

Пачынаецца ваенны парад. Міма трыбун праходзяць воіны розных родаў зброі, дэманструючы сваю гатоўнасць у любую мінуту стаць на абарону любімай Радзімы. Парад закончаны.

У сувязі з дажджлівым надвор'ем дэманстрацыя працоўных была адменена. Але святочная ўрачыстасць аднаўляецца ў тэатрах, у палацах культуры, клубах, спартыўных залах. Да позняй ночы працягваліся масавыя народныя гулянні.

(БЕЛТА).



ПЕРШАЕ МАЯ Ў ГОМЕЛІ. У калоне дэманстрантаў.

Фота П. БЕЛАВУСА. (БЕЛТА).

# ФЛАГМАН САВЕЦКАГА ДРУКУ

## ГАЗЕЦЕ „ПРАВДА"—ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОД

Пятрусь БРОЎКА

## «ПРАВДУ» ЧЫТАЕ ЛЕНІН

Змалку, з юнацтва запомніўся мне,
І дзе б ні быў я — ў маім уяўленні —
Воблік любімы на светлай сцяне:
«Правду» чытае Ленін.

Кожнага ранку ледзьве зара
Сыпне на сцену праменні,
Бачу я ўсмешку правадыра —
«Правду» чытае Ленін.

Бачу я вочы з бляскам жывым,
Колькі ў іх мар, летуценняў!
Домны, плаціны ўстаюць перад ім,—
«Правду» чытае Ленін.

Ясныя далі краіны відны,
Сіла народная пеніць;
Шэпча калоссем прастор цаліны,—
«Правду» чытае Ленін.

Бачыць, што ўсюды зроблена шмат,
Слаўна растуць пакаленні,
За касманаўтам ляціць касманаўт,—
«Правду» чытае Ленін.

Бачыць, народ яго—волат, герой,
Бязмежныя ўдалеч імкненні...
Устану я. Радасна мне раніцой —
«Правду» чытае Ленін.

## У ГОНАР ДНЯ ДРУКУ

У Дзяржаўнай бібліятэцы імя Ул. І. Леніна экспануецца вялікая выстаўка, прысвечаная Дню савецкага друку. Тут многа газет і часопісаў, якія выдаваліся ў розныя гады ў Беларусі. Сярод іх — газеты «Звязда», «Рабочий», «Советская Белоруссия», «Чырвоная змена», часопісы «Полымя», «Беларусь». Вялікія раздзелы прысвечаны гадам станаўлення Савецкай улады ў Беларусі, партызанскаму руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Асобны раздзел расказвае аб газеце «Правда», 50-годдзе якой адзначаюць працоўныя нашай краіны.

## РЭДКІЯ ВЫДАННІ

Пажоўклыя ад часу старонкі. На першай—назва газеты «Буравеснік». Дзень выхаду—10 кастрычніка 1917 года... Вось яшчэ дзве газеты—«Звязда» і «Молат». Яны паведамляюць аб перавыбарах Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, аб лекцыі «Рэвалюцыя і контррэвалюцыя», якую будзе чытаць А. Мяснікоў, аб зборы сродкаў на выданне сацыялістычнай літаратуры. Усе гэтыя рэдкія экземпляры газет захоўваюцца ў архіве Цэнтральнага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў БССР. Нядаўна тут мікрафільміраваны беларускія перыядычныя выданні, якія адлюстроўваюць падзеі 1917 года ў Беларусі.

## У ДОБРЫ ЧАС!

Выйшаў першы нумар міжраённай газеты Мінскага абкома КПБ і абласнога Савета дэпутатаў працоўных пры Мінскім тэрытарыяльным вытворчым калгасна-саўгасным упраўленні «Шлях камунізма».

Нумар адкрываецца артыкулам парторга абкома партыі Мінскага тэрытарыяльнага вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўлення Н. Булаўскага «За работу, працаўнікі сяла». У ім аўтар падрабязна расказвае аб эканоміцы зоны, аб першых кроках работы і бліжэйшых планах упраўлення.

Першы нумар газеты «Шлях камунізма» добра ілюстраваны.

# ЗМАГАР ЗА ПЕРАДАВОЕ МАСТАЦТВА

Е. БОНДАРАВА, кандыдат філасофскіх навук.

«Правда» і перадавое мастацтва. Гэтыя два паняцці неадрыўныя на працягу ўсёй слаўнай гісторыі старэйшага друкаванага органа нашай партыі.

Літаратура, кіно, тэатр, жывапіс, скульптура, музыка і іншыя віды мастацтва заўсёды заставаліся і застаюцца прадметам шчырых клопатаў і ўвагі «Праўды».

Ужо ў першыя гады свайго існавання, у цяжкіх умовах царызму яна знаходзіла магчымасць, разам з вырашэннем мноства палітычных, эканамічных і арганізацыйных пытанняў жыцця партыі, падтрымліваць перадавое мастацтва, абараняць рэалізм ад розных рэакцыйных плыняў. Газета прапагандавала лепшыя творы рускай і сусветнай літаратуры і мастацтва, згуртоўвала вакол сябе рэвалюцыйна настроеных мастакоў, знаходзіла і падтрымлівала таленты з народа. Толькі за першыя два гады (1912 — 1914) «Правда» надрукавала звыш 1000 вершаў, нарысаў, апавяданняў, артыкулаў і іншых матэрыялаў па пытаннях літаратуры і мастацтва. Публікацыю і ацэнку мастацкіх твораў у друку партыя бальшавікоў, яе правадыр Ул. І. Ленін лічылі адной з важнейшых форм ідэалагічнага выхавання мас.

Сярод газетных жанраў Ул. І. Ленін асаблівае значэнне надаваў літаратурна-крытычным артыкулам, рэцэнзіям, аглядам. У адным з пісьмаў у рэдакцыю «Праўды» ў 1913 годзе ён настойліва патрабаваў памятаць аб літаратурна-крытычным аддзеле, паляпшаць яго работу. Менавіта літаратурна-крытычныя матэрыялы, на думку Леніна, дазваляюць газеце найбольш актыўна прапагандаваць ідэі партыі, уздзейнічаць на свядомасць і густы чытачоў.

Ленін указваў, што артыкулы гэтыя павінны быць надзённыя, палітычна завостраныя, перакаnаўчыя і лаканічныя. Бліскучым узорам такіх артыкулаў былі яго ўласныя. Гэтымі якасцямі вызначаліся і літаратурна-крытычныя артыкулы В. Вароўскага, М. Альмінскага, М. Калініна і іншых актыўных супрацоўнікаў дарэвалюцыйнага бальшавіцкага друку. Дзейнасць іх — выдатны прыклад для савецкіх журналістаў і літаратуразнаўцаў.

З першых год заснавання «Правда» актыўна выступае за развіццё пралетарскай літаратуры і мастацтва. Яшчэ ў дарэвалюцыйны час газета «адкрыла» шырокаму чытачу дзесяткі імёнаў рускіх, украінскіх, грузінскіх, армянскіх і зарубежных пісьменнікаў, мастакоў і кампазітараў. З яе старонак упершыню загаварылі з народам А. Серафімовіч, Д. Бедны і іншыя пралетарскія пісьменнікі. «Правда» рашуча падтрымала вялікага рэфарматара тэатральнага мастацтва К. Станіслаўскага. Але яна не толькі ўмела прыкмеціць і падтрымаць таленавітага пісьменніка ці іншага дзеяча мастацтва, вызначыць галоўнае ў яго творчасці. У ацэнцы з'яў літаратуры і мастацтва «Правда» заўсёды кіравалася ленінскім прынцыпам партыйнасці, надзённымі і сёння словамі Ул. І. Леніна аб тым, што пра дзейнасць таго ці іншага літаратара трэба меркаваць не толькі і не столькі «з пункту гледжання формы яго твораў», а «з пункту гледжання яго напрамку ў цэлым», з пункту гледжання таго, што даюць яны сваім зместам масам. Узорам глыбокай і правільнай ацэнкі творчасці пісьменніка могуць служыць надрукаваныя ў «Правде» артыкулы Леніна аб Герцэне, Агарове, аўтары «Інтэрнацыянала» французскім рабочым паэце Э. Пацье, а таксама падтрымка рэдакцыяй «Праўды» тытанічнай барацьбы М. Горкага супраць так званага «чыстага» мастацтва.

Увага цэнтральнага органа нашай партыі да літаратуры і мастацтва, наогул да пытанняў культурнага будаўніцтва яшчэ больш узрасла ў паслярэвалюцыйны час. З першых жа дзён перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі газета побач з урадавымі дэкрэтамі, палітычнымі і народна-гаспадарчымі матэрыяламі, пачала друкаваць артыкулы, заметкі аб культуры і мастацтве, а потым і мастацкія творы розных жанраў. Адначасова «Правда» вяла непрымірымую барацьбу супраць буржуазнага мастацтва, за стварэнне новага па духу і мэтах савецкага мастацтва. Газета настойліва і няспынна растлумачвала палітыку партыі ў галіне мастацтва, выкрывала памылкі ў дзейнасці творчых арганізацый. На старонках газеты друкаваліся ўсе важнейшыя рашэнні партыі аб культуры і мастацтве.

Выключнае значэнне мела апублікаванне ў снежні 1920 года рэзалюцыі ЦК РКП «Аб пралеткультах». У ёй былі намечаны канкрэтныя шляхі развіцця савецкай культуры, якая, па вызначэнню Леніна, павінна з'явіцца заканамерным працягам, далейшым развіццём усяго лепшага, што дасягнута чалавецтвам за сваю шматвяковую гісторыю. На старонках «Праўды» быў дадзены бой усім тым, хто імкнуўся сказіць палітыку партыі ў галіне мастацкай творчасці. «Правда» першай выступіла за аб'яднанне мастацкіх сіл на адзінай ідэйнай і творчай платформе, растлумачвала глыбокі сэнс пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» (1932 год).

З вялікай увагай падышла «Правда» да падрыхтоўкі і правядзення І з'езда савецкіх пісьменнікаў, які з'явіўся вялікай падзеяй у культурным жыцці краіны. У сваіх артыкулах газета асвятляла важнейшыя творчыя пытанні — аб жыццёвай праўдзівасці, народнасці твораў, аб ленінскім прынцыпе партыйнасці літаратуры; яна актыўна падтрымлівала М. Горкага ў яго актыўнай барацьбе за ўмацаванне ў савецкім мастацтве метада сацыялістычнага рэалізму. А калі з'езд закончыў сваю работу, «Правда» змясціла шэраг матэрыялаў, дзе растлумачвала задачы і мэты новай творчай арганізацыі — Саюза пісьменнікаў СССР.

У 30-я гады, якія характарызаваліся бурным ростам сацыялістычнага будаўніцтва і выклікалі да жыцця мноства твораў аб новай рэчаіснасці, на старонках «Праўды» друкаваліся крытычныя артыкулы, нарысы і апавяданні, урыўкі з раманаў («Узнятая цаліна» і «Ціхі Дон» М. Шолахава, «Брускі» Ф. Панфёрава, «На Усходзе» П. Паўленкі і інш.), рэцэнзіі і пісьмы чытачоў і гледачоў. «Правда» папулярызавала лепшыя творы, раскрывала іх значэнне ў выхаванні мас, вызначала сапраўднае месца савецкага мастака ў жыцці.

Усе віды савецкага мастацтва былі пад увагай цэнтральнага друкаванага органа нашай партыі.

У студзені 1935 года ў краіне адзначалася 15-годдзе савецкай кінематаграфіі. «Правда» шырока асвятляе гэтую падзею, піша аб поспехах і новых задачах кінамастацтва. 11 студзеня 1935 г. у газеце было надрукавана прывітанне ЦК ВКП(б) работнікам кіно і рэдакцыйны артыкул, які заклікаў дзеячоў кінамастацтва ствараць фільмы, блізкія і зразумелыя шырокім масам, прасякнутыя высокімі ідэямі сацыялізма.

У тым жа годзе «Правда» аб'яўляе конкурс на лепшую масавую песню і шырока асвятляе яго.

Сістэматычна друкуючы артыкулы і выступленні буйнейшых савецкіх пісьменнікаў, дзеячоў іншых відаў мастацтва, «Правда» на іх прыкладзе давала ўзоры служэння савецкіх мастакоў свайму народу.

Выдатная школа «Праўды», якую прайшлі многія пісьменнікі ў перадваенныя гады, дапамагла ім з гонарам выканаць свой творчы абавязак у цяжкія дні барацьбы савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Палымяныя патрыятычныя словы А. Талстога, М. Шолахава, Ус. Вішнеўскага, А. Фадзеева, Л. Ляонава, Л. Собалева, А. Твардоўскага, К. Сіманава, І. Эрэнбурга, Б. Гарбатава і многіх іншых савецкіх пісьменнікаў гучалі са старонак «Праўды», заклікаючы да подзвігу ў імя Радзімы.

З публіцыстычнымі артыкуламі і вершамі аб патрыятычнай барацьбе выступалі ў газеце і беларускія пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк. Яны ўслаўлялі гераізм свайго народа, яго любоў да Айчыны, веру ў перамогу над ворагам.

У пасляваенны час ўвага газеты «Правда» да пытанняў літаратуры і мастацтва яшчэ больш узрасла. Розныя формы і жанры выкарыстоўвае газета— ад заметак і інфармацый аб навінах мастацтва да глыбокіх тэарэтычных артыкулаў, ад кароткіх вершаў, замалёвак і нарысаў да паэм, урыўкаў з аповесцей, раманаў, п'ес і кінасцэнарыяў. Усе важнейшыя з'явы мастацтва знаходзяць на яе старонках прынцыповую партыйную ацэнку. Партыя праз свой цэнтральны орган засцерагае дзеячоў мастацтва ад памылак, кліча іх да новых поспехаў, да актыўнага служэння народу.

Надрукаваныя ў першыя пасляваенныя гады перадавыя і рэдакцыйныя артыкулы «Праўды» накіраваны супраць безыдэйнага, адарванага ад жыцця і інтарэсаў народа мастацтва.

Вялікі ўплыў на ўсё творчае жыццё краіны зрабілі надрукаваныя ў адным з майскіх нумароў «Праўды» за 1958 год пастанова ЦК КПСС аб выпраўленні памылак у ацэнцы опер і рэдакцыйны артыкул на гэту ж тэму. У іх газета дала наглядны ўрок таго, як трэба пераадольваць уплыў культу асобы пры ацэнцы мастацкіх твораў, як змагацца за далейшы ўздым савецкага сацыялістычнага мастацтва.

Задачу выключнай важнасці паставіў перад савецкім мастацтвам XXII з'езд КПСС, прынятая на ім праграма пабудовы камунізма ў нашай краіне. Быць на ўзроўні нашага імклівага часу, натхняць сваімі творамі будаўнікоў камунізма — галоўнае, што патрабуецца цяпер ад кожнага творчага работніка. Менавіта да гэтага заклікае газета «Правда». Літаральна ва ўсе сферы творчай дзейнасці актыўна ўмешваецца яна, заўсёды выказваючы сваё актуальнае і важкае слова. Вялікую праўду жыцця і мастацтва адстайвае «Правда» на працягу сваёй паўвекавой гісторыі. Адстайвае мужна, паслядоўна, умела.



Імя «Праўды» было на баявых сцягах партызан. Адзін з іх захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

# З ВЯЛІКАЙ ЗЯМЛІ

Расказ былой партызанкі, Героя Савецкага Саюза Марыі Барысаўны ОСІПАВАЙ

Я нават не ведаю, з чаго пачаць. Вось атрымліваю кожны дзень «Правду», перачытваю яе і нічога ў гэтым няма дзіўнага, усё проста, звыкла. А ўспамінаю, як да нас у Мінск трапіла «Правда» ў тыя жахлівыя гады акупацыі, як зачытвалі мы яе да дзірак, і зноў перажываю і хвалююся. І нават сённяшні нумар газеты здаецца мне незвычайным. Той, хто перажыў гэта, зразумее мяне. Бо ўсё, што тады трапляла да нас з Вялікай зямлі, рабілася вялікім, значным, і ў людзей раптам акрыляліся душы.

Вы не паверыце, я сядзела і плакала. І літары расплываліся перад вачыма. І чытала яе ўсю ноч —ад радка да радка, ад загалоўка да тэлефонаў рэдакцыі. Было гэта, памятаю, у канцы верасня 1942 года. Я працавала ў Мінску, а сувязь трымала з атрадам праз сувязных. Яны прыносілі лістоўкі, нашы падпольныя газеты, перадавалі даручэнні. І вось неяк ўвечары заходзіць да мяне Ваня Тоўсцікаў (пазней ён гераічна загінуў).

— Добры вечар, Чорная! (Гэта было маё падпольнае імя). Я вам газетку прынёс.

А сам загадкава ўсміхаецца. Зняў шапку і з-пад падкладкі вымае складзены газетны аркуш. Гляджу—«Правда»!

— Сапраўдная, — гаворыць. — Адтуль.

Сапраўдная! У гэтым быў асаблівы сэнс. Справа ў тым, што немцы даволі часта друкавалі фальшывыя нумары нашых цэнтральных газет. І чаго толькі ў іх не пісалі—усё спрабавалі зняверыць народ.

А тут—сапраўдная, наша. Я прыціснула яе да твару і заплакала. Ваня аж спалохаўся: «Сапсуеш газету, — крычыць.—Мне ж яе на заводы трэба перадаць».

Ледзь упрасіла пакінуць да раніцы. Так усю ноч і перачытвала, завесіўшы вокны. Прачытаю радок і думаю. І хоць цяжкія весткі з франтоў паведамляліся ў газеце, усё роўна на душы лёгка рабілася. І нібы сілы прыбаўляліся. Чытала адна, а як хацелася з кім-небудзь падзяліцца, хацелася выйсці на вуліцу і паказваць людзям — вось, глядзіце, «Правда»!

Але раніцаю прыйшоў наш падпольшчык і панёс газету разам з лістоўкамі на завод імя Мяснікова, адтуль яна трапіла на станкабудаўнічы і на іншыя заводы.

А ў 1943 годзе я сама прынесла з атрада «Правду». Гэта дазвалялася не ўсім. У прыватнасці, мне было катэгарычна забаронена мець пры сабе якія-небудзь доказы сувязі з партызанамі. І ўсё ж не ўтрымалася. Скінулі, памятаю, з самалёта пачак газет. Тут жа строга пералічылі іх, пачалі размяркоўваць па брыгадах. Я ўзяла адзін экземпляр прачытаць і непрыкметна сунула ў рукаў. Спахапіліся, калі пайшла ўжо ў горад. Памятаю, нават агледзелі перад адыходам, ці няма чаго падазронага, але не заўважылі.

Іду прасёлкам. А на душы нібы свята, хоць і няёмка крыху было— парушыла ж дысцыпліну, але ўсё роўна радасна было. І раптам— наперадзе паліцэйская застава. Кагосьці ўжо абшукваюць. Я—у кусты. Што рабіць? Выкідаць шкода, ды і нельга. І адважылася. Згарнула з газеты скрутак, перасыпала ў яго крупы (я несла кошык з прадуктамі) і іду сабе, а ў самой калені дрыжаць. Спынілі, праклятыя, абшукалі, але не заўважылі.

Увечары сабраліся мы на Заслаўскай вуліцы на кватэры ў Мікалая Пракопавіча Дразда. Жонка яго паведаміла суседзям, усім, каму давяралі. Здабылі газы, замаскіраваліся, запалілі лямпу і пачалі чытаць. Спачатку я, потым мяне падмяніла дачка Дразда — Рэня, наша сувязная. Памятаю, у нумары была фатаграфія групы ўзнагароджаных байцоў. Доўга ўзіраліся мы ў іх твары і такое адчуванне ў нас было, нібы гэта родныя.

Раніцаю, як і ў мінулы раз, разам з лістоўкамі перадалі газету на заводы. І што самае цікавае— доўга яшчэ чуткі пра гэты нумар «Праўды» хадзілі па горадзе. То яе чыталі ў кагосьці, то хтосьці перадаваў знаёмым змест кожнага артыкула, то нехта проста бачыў яе і расказваў пра гэта, як пра найвялікшую радасць. Неяк сустракае мяне на вуліцы знаёмы чыгуначнік: «Ведаеце, Марыя, я «Правду» чытаў». І пачынае пераказваць змест той, «маёй», «Праўды». «Не падумайце, — гаворыць, —мы і шрыфт звяралі — сапраўдная». Потым ад знаёмай праз месяц ужо чула пра гэтую ж «Правду», але ўжо гаварылі, нібы яе скінулі з самалёта...

Так два разы ў час акупацыі давялося мне ўбачыць і чытаць «Правду», і пра гэта я ніколі не забуду. Здавалася, калі «Правда» жывая — значыць жыве, змагаецца і перамагае наша партыя, наша Савецкая ўлада. Вядома, змагаліся і не трацілі надзеі і не чытаючы газет. Але, як нешта вельмі дарагое, як добрая вестка ў цяжкую хвіліну, былі для нас гэтыя два звычайныя нумары—звычайныя для тых, хто знаходзіўся на Вялікай зямлі і, як і да вайны, кожны дзень праглядаў «Правду». А для нас гэта было святам.

# Сустрэча ў Лондане

Г. АБУХОВІЧ, народная артыстка БССР

У ліпені 1960 года мне давялося з групай работнікаў мастацтва па пуцёўцы Таварыства дружбы «СССР — Брытанія» наведаць Лондан. Далёкі, туманны, якім ён уяўляўся нам, Лондан аказаўся даволі блізкі: якіх-небудзь чатыры з лішнім гадзіны лёту на ТУ-104 з прыпынкам у Бруселі, бліснуў пад крылом Ла-Манш і вось ужо мы ў тым своеасаблівым неспакойным, падчас стамляючым, але заўсёды цікавым жыцці турыстаў, калі ад уражанняў разбягаюцца вочы, а ад запісаў пухнуць блакноты; калі хочацца ўсё пабачыць, запомніць, зразумець.

... Брытанскі музей, славутая нацыянальная галерэя, калона Нэльсана, змрочны Тауэр, Вестмінстэрскае абацтва, сярэдневяковыя замкі і ультрасучасная архітэктура, модныя вітрыны, дзелавыя і творчыя сустрэчы, канцэрты, усмешкі, поціскі рук і ўзаемнае здзіўленне. Англічане маюць даволі цьмянае ўяўленне аб нашай краіне і аб нашым мастацтве і ветліва здзіўляюцца, слухаючы нашы расказы...

І раптам дзве сустрэчы, якія пакінулі асаблівы след у памяці і аб якіх хочацца расказаць сёння ў дзень юбілею нашай «Праўды». Нас павялі на магілу Карла Маркса, а потым у рабочы клуб у раёне Кендзішраум. Як звычайна, да помніка вялікага заснавальніка камуністычнага вучэння нашых турыстаў суправаджаў акрамя гіда адзін з прадстаўнікоў Камуністычнай партыі Англіі. На гэты раз яму было вельмі няёмка перад намі, савецкімі турыстамі, няёмка і балюча за сваю краіну. Некалькі дзён назад фашысцкія малойчыкі, здзекваючыся з памяці чалавека, дарагога працоўным усяго свету, аблілі помнік фарбай, і гід прасіў нас не фатаграфаваць магілу. Ён расказаў, што зараз збіраюцца сродкі на рэстаўрацыю, бо фарба аказалася незмываемай.

А потым мы пайшлі ў клуб. Маленькі, падобны на магазін пакой, які рабочыя арандуюць у прыватнага гаспадара, гэта быў і клуб, і своеасаблівы мемарыяльны музей. З асаблівай гордасцю расказалі нам, што тут правіў гранкі «Искры» Ул. І. Ленін. Крэслы і стол, за якім сядзеў Ільіч, клапатліва захаваны. А пад шклом на стале — «Маніфест», напісаны рукой Маркса.

І раптам побач з гэтымі цікавымі дакументамі, перад якімі мы пачціва застылі, бачым газеты — «Дэйлі уоркер» і наша «Правда». Цяжка перадаць, што адчуваеш на чужыне, калі сустракаешся з родным, блізкім, тым, што нагадвае табе аб радзіме, аб самым галоўным у тваім жыцці. Нумар «Праўды» быў свежы і мы кінуліся яго чытаць. Чыталі так, як ніколі, можа, дома не чыталі. Але «Правда» чакала не толькі нас, яна чакала сваіх пастаянных чытачоў, англійскіх рабочых з бліжэйшых раёнаў. Яны прыходзяць сюды кожны дзень і чытаюць свае камуністычныя газеты, а разам з імі і «Правду» — праўду аб нашай краіне, аб нашай партыі, аб нашых будоўлях і спадарожніках.

І яшчэ раз мы сустрэліся з «Праўдой» у невялікім кіёску. Яе куплялі англічане і з цікавасцю праглядалі, чыталі. Пажылы чалавек, які суправаджаў нас і быў у Мінску у 1953 годзе з дэлегацыяй, расказваў, што рабочыя вельмі цікавяцца нашай газетай. Продаж яе ў Англіі афіцыяльна дазволены, але купіць газету даволі цяжка — прыдумваюцца ўсялякія перашкоды, каб абмежаваць яе распаўсюджванне. Таму «Дэйлі уоркер» часта перадрукоўвае з «Праўды» важнейшыя матэрыялы.

Святло нашай праўды нясе «Правда» людзям, святло вялікіх ідэй і вялікіх здзяйсненняў. І было штосьці сімвалічнае ў тым, што ў маленькім рабочым клубе ў англійскіх сяброў заўсёды побач клапатліва берагуцца і матэрыялы з часоў Маркса і Леніна, і свежыя нумары камуністычных газет «Дэйлі уоркер» і «Праўды».



СВЕЖЫЯ ГАЗЕТЫ. Фота Ул. КРУКА.

# СЯРОД ПЕРШЫХ

ПАДШЫЎКА дарэвалюцыйнай «Праўды». Зачытаныя, пажоўклыя ад часу старонкі.

З нейкім незвычайным хваляваннем і пачуццём у сэрцы знаёмішся з газетай. На кожнай старонцы — у кожным вялікім артыкуле, у кожнай маленькай карэспандэнцыі з розных мясцін Расіі, у кожным вершы, нарысе і апавяданні адчуваецца подых перадкастрычніцкай бітвы, да якой Камуністычная партыя рыхтавала рабочы клас.

Газета несла працоўным масам Расіі мужнае слова рэвалюцыйнай праўды, гуртавала шэрагі пісьменнікаў і журналістаў-рабочых, дапамагала ім у авалоданні мастацкай культурай. У артыкуле «Аб газеце «Правда» вядомы рэвалюцыйны дзеяч М. Альмінскі пісаў: «Цэнячы нешматлікіх пісьменнікаў, якія не парвалі з рабочай справай, мы павінны падкрэсліваць у той жа час жыццёвую неабходнасць згуртавання пісьменнікаў — рабочых». («Правда», 1912 г., № 101). І газета рабіла практычныя захады ў гэтым кірунку.

Вось 101 нумар газеты за 26 жніўня 1912 года. Побач з вершам «Грабцы» вядомага рабочага паэта Самабытніка (Машырава) змешчаны верш Давіда Скарбяшчага:

Лишь только фабричный гудок прогудит —
Из корпусов мрачных уйти я спешу
За город, где бор молчаливо стоит —
Здесь воздухом свежим я жадно дышу.

Здесь взор мой ласкает открытый простор,
И синяя даль так зовет и манит!..
О чем-то вздыхает задумчивый бор,
О чем-то своём затаенно молчит.

То бодро вперед по тропе я иду,
То с думой глубокой средь бора стою,
То тайные с ним я беседы веду,
То смелые песни рабочих пою...

Ни жизнь без просвета, ни цепи судьбы,
Ни горе раздумья меня не гнетут,
Но ясные мысли и радость борьбы,
Все глубже, все шире, смелее растут.

Давід Скарбяшчы — гэта псеўданім вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Цішкі Гартнага. Такім псеўданімам ён падпісваў свае раннія вершы на рускай мове і творы, змешчаныя ў кіеўскім часопісе «Огни».

Вандроўныя сцежкі ў 1912 годзе прывялі капыльскага гарбара Змітра Жылуновіча (Ц. Гартнага), які шукаў работы, у літоўскі горад Вількамір. Тут ён даведаўся пра выданне бальшавіцкай «Праўды», пазнаёміўся з яе першымі нумарамі.

Цішка Гартны, творчасць якога выдзялялася на агульным фоне беларускай дакастрычніцкай паэзіі рабочай тэматыкай, наладзіў сувязі з рэдакцыяй «Праўды», стаў актыўным супрацоўнікам газеты. Неўзабаве пасля верша «Лишь только фабричный гудок прогудит», які сваімі матывамі пераплятаецца з вядомымі «Песнямі гарбара», беларускі паэт змяшчае ў «Правде» верш «Песня каваля», прасякнуты пафасам рэвалюцыйнай барацьбы і верай у стваральную сілу чалавека працы.

Посмотри на мой горн, как пыхтит,
Будто кузница жаром облита!
Разлетаются искры сердито,
И железо с угрозой шумит!
Наковальню стальную свою
Приготовил давно под удары,
Из железа — смягчилось от жара —
Острый меч для себя я кую.

(«Правда», 1912 г., № 124).

Вярнуўшыся восенню 1912 года з Вількаміра ў родны Капыль, Ц. Гартны стаў актыўным прапагандыстам бальшавіцкай газеты сярод сваіх землякоў— рэвалюцыйна настроенай моладзі. Трэба адзначыць і такі цікавы факт: беларускі паэт наладжвае ў мястэчку і бліжэйшых вёсках збор сродкаў у фонд «Праўды» (было сабрана 27 рублёў).

Вясною 1913 г. Ц. Гартны пераехаў у Пецярбург і паступіў працаваць фрэзероўшчыкам на завод «Вулкан». У гэты час творчыя сувязі паэта з рэдакцыяй «Праўды» набылі сталы характар. «Праз некалькі дзён пасля майго першага наведання рэдакцыі «Праўды» на яе старонках з'явіўся нарыс з жыцця гарбароў з загалоўкам «В мастерской». Следам была надрукавана карэспандэнцыя з завода «Вулкан», яшчэ праз некалькі дзён з'явіўся верш «Говор волн», — успамінаў пасля Ц. Гартны. («Літаратура і мастацтва», 1932 г., № 8).

У вершы «Говор волн», змешчаным у газеце за 26 мая 1913 г., паэт пісаў:

Чувств тоскливых, назойливых полн,
С гордой думой, как с призраком споря,
Я прислушался к говору волн
Расходившейся бури на море!

И средь гула сердитых валов
Мне шумела в лицо непогода:
«Нам не надо нигде берегов,
Были б только простор и свобода!»

У сваіх допісах з завода «Вулкан» Цішка Гартны, паводле яго ж слоў, асвятляў становішча рабочых, культурны ўзровень, абыходжанне з імі майстроў.

Супрацоўніцтва Цішкі Гартнага ў бальшавіцкай дарэвалюцыйнай «Правде» — цікавая старонка творчай біяграфіі беларускага паэта, якая сведчыць пра шырыню яго грамадска-палітычных інтарэсаў.

А. СЦЯПАНАЎ.

Мінск, друкарня выдавецтва «Звязда». Ноччу з Масквы сюды паступаюць матрыцы «Праўды», а раніцай свежы нумар газеты ўжо ў руках тысяч мінчан.

Мал. А. САПЕТКІ.

# ДАПЫТЛІВАЕ ВОКА ФОТААБ'ЕКТЫВА

**А. ДЗІТЛАЎ,**
старшыня фотасекцыі Саюза журналістаў БССР

Фотамастацтва часта называюць мастацтвам бачання. Гэта вельмі трапнае і правільнае вызначэнне. Менавіта з умення «ўсё бачыць па-свойму» ў навакольнай рэчаіснасці, разглядзець у звыклым і будзённым найбольш характэрнае, пачынаецца працэс творчай фатаграфіі. Зусім відавочна, што гэта пад сілу далёка не кожнаму, нават з тых, хто дасканала валодае тэхнікай. Іншы раз чалавеку, які мае фотаапарат, удаецца дакладна адлюстраваць убачаныя ім аб'екты, але зробленыя потым здымкі аказваюцца проста добрасумленнымі натуралістычнымі злепкамі, яны не кранаюць вас.

Фатаграфіі ўласцівая фіксацыя нейкага жыццёвага моманту. Менавіта дзякуючы гэтай магчымасці, сучаснае перадавое фотамастацтва выбрала сабе асноўны напрамак — рэпартажнасць. У свой час было масавае захапленне так званай пастановачнай фатаграфіяй, калі аўтар не выбіраў аб'ект здымкі, а штучна ствараў яго. Гэта вяло да пераймання жывапісу, пладзіла фальш.

Імклівае развіццё тэхнічных магчымасцей фатаграфіі ў нашы дні стварыла ёй неаспрэчны аўтарытэт аб'ектыўнасці і дакументальнасці. Бязглуздыя спробы падмяніць жывапісцаў памерлі раз і назаўсёды. Цяпер ніхто з фатографаў не возьмецца за стварэнне фотакарціны, прысвечанай, напрыклад, Івану Грознаму, хоць акцёраў-натуршчыкаў для такой кампазіцыі знайсці не цяжка. У адмаўленні ад прыёмаў, унаследаваных ад жывапісцаў, у прыхільнасці аўтараў да рэпартажу і тоіцца поспех усіх вялікіх і малых сучасных фотавыставак.

Фатаграфія — мастацтва аналітычнае, заснаванае на ведах аўтара, яго практычным вопыце, глыбокай уражлівасці. Пільна назіраючы праз відашукальнік апарата за аб'ектам здымкі, фатограф-мастак абавязаны не толькі імгненна ацаніць тое, што адбываецца навокал яго, але і ўмець прадбачыць тое, што будзе потым. Інакш затвор можа спрацаваць дачасна. Вопытныя майстры добра ведаюць гэта.

Вядома, у некаторых выпадках зусім магчымая і арганізацыя кадра, напрыклад, партрэтнага. Часцей за ўсё чалавек, які здымаецца на плёнку, ахвотна памагае фатографу ў пастаноўцы кадра. Часцей за ўсё, але не заўсёды. Калекцыі твораў фотамастацтва багатыя таксама партрэтамі, зробленымі рэпартажна.

Аператыўнасць і даходлівасць фатаграфіі не ведае сабе роўных. Яе «мова» сапраўды агульначалавечая, надзвычай эмацыянальная. Гэта надае фатаграфіі асаблівую сілу, робіць яе адным з важнейшых сродкаў выказвання чалавекам сваіх лепшых імкненняў і надзей. Маладое сацыялістычнае фотамастацтва ўжо набыло дастатковую сталасць. Праўдзівае, народнае, партыйнае па сваёй прыродзе, яно заняло належнае месца ў арсенале нашай ідэалагічнай зброі.

Мастацтва фатаграфіі аб'ядноўвае людзей самых розных узростаў і прафесій. На выстаўках можна бачыць работы і заслужаных майстроў і пачынаючых аматараў. Далучэнне шырокіх мас да фатаграфіі дае вялікія магчымасці для выяўлення іх эстэтычных схільнасцей. І задача цяпер у тым, каб усяляк развіваць гэты від самадзейнай творчасці.

Да ліку самых маладых адносіцца калектыў беларускіх фатографаў. Усяго тры гады назад мы атрымалі магчымасць упершыню правесці рэспубліканскі агляд сваіх сіл. Фотавыстаўка, прысвечаная вынікам першага года сямігодкі ў Беларусі, з'явілася і першым вынікам нашай творчай работы. Потым была праведзена «Выстаўка беларускай мастацкай фатаграфіі другога года сямігодкі». І, нарэшце, сёлета, у трэці раз, паказваецца тэматычная калекцыя лепшых фатаграфій пад назвай «Сямігодка ў дзеянні».

У выстаўцы прымаюць удзел 69 майстроў і аматараў з усіх абласцей рэспублікі, што ў тры разы перавышае колькасць удзельнікаў першай экспазіцыі. Значная частка здымкаў зроблена журналістамі і членамі абласных фотаклубаў.

Фотаклубы цяпер узнікаюць літаральна ўсюды: у навучальных установах, на прадпрыемствах. Магутная хваля фотааматарства, услед за якой нарастае другая — кінааматарства, значна пашырыла планы работы рэспубліканскага Дома народнай творчасці. Тут з'явіўся нават метадыст па фотакінасправе.

Ва ўсіх абласцях былі праведзены мясцовыя выстаўкі, лепшыя работы якіх склалі экспазіцыю рэспубліканскай выстаўкі. Толькі Мінская вобласць аказалася без творчага аб'яднання фотааматараў і не здолела прадставіць работы на агляд беларускага фотамастацтва. Па сутнасці не ўдзельнічаюць у гэтым аглядзе і многія аматары Мінска, якія з'яўляюцца членамі стыхійна ўзнікшага гарадскога фотаклуба. Справа ў тым, што гэтаму клубу ні абласное ўпраўленне культуры, ні Дом народнай творчасці не аказваюць ніякай дапамогі і падтрымкі.

Увогуле ж наша трэцяя выстаўка сведчыць аб масавасці беларускага фотамастацтва. Многія работы, прадстаўленыя на ёй, у свой час былі апублікаваны ў перыядычным друку.

Сяму-таму з наведвальнікаў гэта не падабаецца. «Навошта было выстаўляць здымкі, раней змешчаныя ў друку?» — гавораць яны. Але ж вядома, што ў паліграфічным выкананні фатаграфіі звычайна шмат траціць. На выстаўцы ж ёсць магчымасць паказаць усё лепшае і ў лепшым выглядзе. Выстаўка — гэта грамадскі прагляд. І ўдзельнічаюць у ім не толькі непасрэдныя творцы фатаграфій, але так ці інакш і рэдакцыйныя калектывы, у якіх яны працуюць.

Можна назваць нямала рэдакцый газет, якія выкарыстоўваюць у вялікай колькасці фотаілюстрацыі, а на гадавы агляд фотамастацтва не даюць нічога колькі-небудзь цікавага. Вазьміце, напрыклад, рэдакцыю «Віцебскага рабочага». З усяго, што было паказана выстаўкому двума штатнымі фотакарэспандэнтамі гэтай газеты, у рэспубліканскую экспазіцыю трапіў толькі здымак «На дзвінскіх прасторах» Л. Клімава. Ці не занадта сціплыя вынікі?

Чаму я гавару аб сувязі паміж выстаўкай і штодзённай работай рэдакцыі? Таму, што і рэдакцыйныя калектывы, і выстаўком робяць адну агульную справу — сістэматычна вядуць праз фотамастацтва прапаганду поспехаў савецкага народа ў камуністычным будаўніцтве. Выставачны стэнд — ганаровая трыбуна перш за ўсё для фотажурналіста.

Мне могуць запярэчыць, што ад будзённага газетнага здымка да экспаната выстаўкі — дыстанцыя вялікага памеру. Вядома, гэта правільна, з той толькі агаворкай, што зусім не абавязкова ўсе газетныя здымкі рабіць будзённымі. Газеты і часопісы павінны імкнуцца друкаваць як мага больш добрых фатаграфій і не даваць месца дрэнным. Ад гэтага толькі ўзнімецца рэпутацыя аўтараў.

Звярніце ўвагу на фатографаў Гродзеншчыны, аб'яднаных у абласную секцыю, якая ўсю сваю работу ўзгадняе з работай рэдакцыі «Гродзенскай праўды». З году ў год гродзенцы выступаюць на рэспубліканскіх выстаўках як моцны і творча растучы калектыў, які добра разумее надзённыя задачы сучаснай фотапубліцыстыкі. В. Косцін, Я. Краўчанка, В. Дробышаў і іншыя майстры і аматары Гродзеншчыны прадставілі нямала цікавых работ.

Плённа працаваў і фотакарэспандэнт Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі В. Бараноўскі. Яго фатаграфіі зроблены з вялікай любоўю. Аўтар валодае высокай тэхнікай здымкі і лабараторнай апрацоўкі. «Зімовы матыў» В. Бараноўскага прысвечаны роднаму гораду, яго маленькім шчаслівым жыхарам. Тут нічога няма паказнога і наўмыснага, усё дастаткова стрымана. А ўвогуле фатаграфія поўная лірыкі і прывабнасці. Іншымі сродкамі карыстаўся той жа аўтар, ствараючы здымак «Над ракою Арэсай». Сюжэт яго просты. На зямлю сыходзіць змрок. Экскаватар прасцёр сваю жалезную руку над палескімі прасторамі. У кабіне яго відаць сілуэты людзей, чыёй высакароднай працы прысвечаны здымак. В. Бараноўскі мае для гэтай фатаграфіі другую назву «Рамантыка будняў». І шкада, што ніхто не падказаў аўтару аб'яднаць дзве назвы, паставіць іх у адзін радок. Тады напамінанне аб мінулым Палесся, аб першых беларускіх камунарах, услаўленых яшчэ Янкам Купалам, атрымала б больш яркую сучасную афарбоўку на здымку.

На выстаўцы ёсць вынікі і іншага падыходу да творчай справы, вынікі іншых імкненняў.

Думаю, што шчырасць не засмуціць майго калегу па прафесіі — карэспандэнта «Советской Белоруссии» Л. Папковіча. Я хачу спытаць у яго: ці многа

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# Гэта і іх свята

Я ўбачыў яе ў чытальнай зале Ленінскага райкома КПБ на выстаўцы насценнага друку. У яе простая немудрагелістая назва: «Кожевник». Орган партыйнай, камсамольскай і прафсаюзнай арганізацыі скурзавода «Бальшавік».

Першае, што мне кінулася ў вочы, гэта незвычайнасць, «нетрадыцыйнасць», калі можна так сказаць, афармлення. Вялікі ліст ватману разлінаваны на шэсць калонак, па колькасці рабочых дзён тыдня. Супраць кожнай калонкі — назва дня. З мастацкага боку таксама сціпла афармлена. Усяго некалькі віньетак і тры невялікія малюнкі. Аднак прыгожа! Побач з газетай на стале ляжала падшыўка заводскага «Кракадзіла» і некалькі нумароў «Маланкі».

Прачытаўшы матэрыялы, змешчаныя ў «Кожевнике», мне захацелася бліжэй пазнаёміцца з тымі, хто дае жыццё гэтым газетам.

Першай, з кім я сустрэўся ў кабінеце партбюро завода, была Людміла Пятроўна Дрыга, рэдактар.

— Кожны цэх на заводзе мае сваіх спецкораў, — гаворыць Людміла Пятроўна. — Гэта памагае рабіць газету баявой і надзённай, своечасова ліквідаваць недахопы ў рабоце асобных цэхаў і вытворчых участкаў.

Вось некалькі прыкладаў. Доўгі час ў хімічнай лабараторыі завода дрэнна працавала ацяпляльная сістэма. З труб і радыятараў працякала вада і струменіла пара. На скаргі работнікаў лабараторыі галоўны механік не рэагаваў. Тады яны вырашылі напісаць у газету. На наступны дзень на шчыце ля прахадной рабочыя завода чыталі свежы нумар «Кракадзіла».

«Кракадзіл» памог. Праз два дні ацяпляльная сістэма была адрамантавана. Інакш і не магло быць! Калі б гэтыя непаладкі не былі своечасова ліквідаваны, віноватаму давялося б трымаць адказ перад партыйным бюро завода.

Хочацца адзначыць, што рэдкалегія «Кожевника» і яго сатырычнага дадатку «Кракадзіл» змагаюцца з недахопамі не толькі словам і пэндзалем. У другі раз, калі зноў на галоўнага механіка ў газету прыйшла скарга, яго вырашылі выклікаць на пасяджэнне рэдкалегіі. Гэтага было дастаткова, каб механік у хуткім часе ліквідаваў недахопы ў сваёй рабоце.

Ці ўзяць такі выпадак. Сталяр Ф. Кахаsuccessоўскі напісаў у рэдакцыю аб непаладках з водазабеспячэннем у сваім цэху. І тут «Кракадзіл» таксама памог.

«Кракадзіл» — аўтарытэтны і надзённы часопіс на заводзе. Тэматыка яго выступленняў самая разнастайная.

Сатырычны цэх газеты складаецца з чатырох чалавек. У яго ўваходзяць рабочы Х. Рыўкін, інжынеры І. Баброва і Э. Гернерг і заводскі мастак В. Бакала.

Палітра Васіля Уладзіміравіча Бакалы даволі багатая: ад лёгкага гумарыстычнага шаржа да злой карыкатуры. Аб добрым гусце мастака можна меркаваць не толькі па газеце. Ён адчуваецца і ў святочным афармленні лозунгамі і транспарантамі будынка завода.

Добрым словам хочацца адзначыць астатніх членаў рэдкалегіі. Іх работа заслугоўвае ўвагі. Я ўжо гаварыў, што кожны нумар «Кожевника» вярстаецца ў шэсць калонак. Навошта гэта? А вось для чаго. Раз у тыдзень рэдкалегія вызначае шэсць чалавек з ліку сваіх членаў. Кожны з іх абавязаны ў сваёй калонцы раз у тыдзень змясціць актуальны матэрыял дня. Аператыўнасць, як бачыце, вельмі высокая. Газета, такім чынам, штодзень абнаўляецца.

Газета сабрала вакол сябе шырокі актыў рабкораў. Пішуць у газету брыгадзір М. Расолька, начальнік цэха Х. Суперфін, інжынер Я. Грышкевіч і многія іншыя.

Да юбілею «Праўды» заводскі «Кожевник» падрыхтаваў спецыяльны выпуск.

— Гэта і наша свята, — гаворыць рэдактар насценнай газеты завода «Бальшавік» Людміла Дрыга.

**І. ДАШЧЫНСКІ.**

## Выйшлі з друку

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшлі з друку і паступілі ў продаж наступныя кнігі мастацкай і музычнай літаратуры.

**Алесь Асіпенка.** Дарога ў даль. Аповесць і апавяданні. Мастак С. Раманаў. Тыраж 6 тыс. экз., стар. 420. Цана 59 кап.

**Віталій Вольскі.** П'есы. Прадмова Яўг. Замерфельда. Мастак А. Сапетка. Тыраж 2 тыс. экз., стар. 256. Цана 72 кап.

**Артур Вольскі.** Далёкія і блізкія прычалы. Вершы. Мастакі П. Калінін і А. Сапетка. Тыраж 2 500 экз., стар. 80. Цана 13 кап.

**Пілін Пестрак.** Падарожнае. Вершы. Мастак Г. Клікушын. Тыраж 3 тыс. экз., стар. 124. Цана 18 кап.

**Аляксей Пысін.** Сонечная паводка. Вершы. Мастак В. Харэўскі. Тыраж 2 500 экз., стар. 72. Цана 8 кап.

**Людвіг Рэн.** Вайна без бітвы. Раман. Пераклаў з нямецкай мовы Васіль Сёмуха. Мастак Ю. Пучынскі. Тыраж 4 тыс. экз., стар. 296. Цана 82 кап.

**І. Бах.** Дванаццаць маленькіх п'ес. З нотнага сшытка Анны-Магдаліны Бах. Для ф-на. На рускай мове. Тыраж 10 550 экз., стар. 12. Цана 14 кап.



ПЕРШАЕ МАЯ Ў ГРОДНА. Моладзь на дэманстрацыі.

Фота В. КОСЦІНА (БЕЛТА).

# ХОРАША ІСЦІ ПА ЗЯМЛІ!

**М. ГІЛЕВІЧ**

Жыў сабе чалавек. Раніцой уставаў, ішоў на працу, вяртаўся дадому. Душнымі летнімі вечарамі выходзіў у двор, падоўгу сядзеў на лаўцы пад старым шапатлівым клёнам, пасаджаным яшчэ дзедам, слухаў ціхі шэпт дрэва, глядзеў на бляклы ад вулічных ліхтароў месяц, ішоў спаць. У выхадны дзень часам збіраўся за горад — на возера ці рэчку, адпачываў і ўпотай зайздросціў знаёмым, якім, чамусьці, кожнае лета ўдавалася праводзіць на поўдні і якія пасля гадзінамі расказвалі, смакуючы кожнае слова, пра ласкавыя хвалі сіняга Чорнага мора, пра маляўнічыя крымскія горы, пра мыс Піцунда, пальмы і квітучыя магноліі... Рамантыка!... Амаль тропікі! Кракадзілаў толькі няма! Ды яшчэ, бадай, птушкі калібры!..

І аднойчы чалавек не сцярпеў. Падняўся разам з сонцам, закінуў за плечы невялікі рэчавы мяшок і пайшоў. Пайшоў не ў Крым і не да берагоў Санта-Лючыі. Пайшоў берагам сваёй роднай рэчкі — Сліжанкі, скажам, ці нейкай там Бачылаўкі. Ішоў росным берагам, слухаў звон лугавых красак, дыхаў настоеным на мёдзе паветрам, купаўся ў празрыстых і прыемна халаднаватых хвалях сваёй Сліжанкі, начаваў пры вогнішчы начлежнікаў, пёк бульбу разам з басаногімі пастушкамі, сёрбаў рыбную юшку-аб'ядзенне ля рыбацкага кастра, заходзіў у вёскі, гарады, бываў на заводах і фабрыках, гутарыў з людзьмі, радаваўся кожнаму спадарожнаму і сустрэчнаму — карацей, глядзеў на ўсё вачыма цікаўнага, дапытлівага чалавека: «А што ж ёсць у нас, тут, пад бокам, сярод таго, вакол чаго мы жывём, што бачым кожны дзень і чаго па незразумелай і недаравальнай чалавечай абыякавасці не заўважаем?»

І столькі цікавага ўбачыў і пачуў вакол сябе гэты дапытлівы чалавек, такое вялікае замілаванне выклікалі ў яго душы сустрэчы з родным краем і яго людзьмі, столькі захапляючага і нават рамантычнага даведаўся ён за час свайго падарожжа, што палічыў нетактоўнасцю, хцівасцю, урэшце злачынствам трымаць яго ў сабе, не расказаць аб усім бачаным і чутым людзям.

Так, мусіць, або прыблізна так магла нарадзіцца кніга А. Сінілава. Яна, безумоўна, не пройдзе па-за ўвагай нашага чытача.

«Сённяшні дзень «сінявокага прынёманскага краю» — так можна коратка вызначыць змест гэтай кніжкі. Аўтар яе, супрацоўнік рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда», праехаў і прайшоў пешымі сцежкамі амаль усю Гродзеншчыну, трымаючыся пераважна берагоў Нёмана. Звесткі з гісторыі, геаграфіі, эканомікі краю натуральна пераплятаюцца ў яго з жывымі ўражаннямі ад сустрэч з людзьмі, ад усяго таго, што аўтар убачыў і пачуў у дарозе».

Словы гэтыя — з невялічкай анатацыі, якой суправаджаецца кніжка А. Сінілава. Здаецца, усё тут сказана, і разам з тым амаль нічога, прынамсі, недаравальна мала. Няма сярод гэтых слоў, бадай, самага галоўнага, таго, што аўтар кнігі — чалавек надзвычай паэтычнай натуры, тонкі назіральнік з багатай душою мастака.

Хіба кожнаму даступна вось такое: «Не так ціха навокал, як здаецца. Рознымі шумамі поўніцца спелае жыта. Падыдзі да яго суцэльнай сцяны, а яшчэ лепш — сядзь і добра прыслухайся. Пачуеш, як па ўсёй жытнёвай шыры разносіцца шматгалосы шум, хоць і глухі, але магутны і неабдымны. Ён то аддаляецца, то набліжаецца зноў. І пачуеш яшчэ блізкія высокія і тонкія гукі — звіняць. Кожны каласок — званочак, іх несупыннае ціхае дзынканне акружае ўсяго цябе, і на сэрцы светла ад гэтай радаснай песні: здаецца, спявае ўраджай урачысты свой гімн».

А хіба кожны складзе ў душы такую паэму... пра дрэва: «Вось стаіць пры дарозе ясакар — усім ясакарам ясакар. Ствол у чатыры абхваты, увесь у густым голлі. Зямля на сорак метраў вакол — толькі яго. Араць тут кінулі, бо нішто не родзіць у цяню. А тым часам ясакар вырасціў сям'ю: каля бацькоўскага пляча дружна ўзняліся яго сыны. У людзей рука на іх не падымаецца, і плугу зноў прыйшлося адступіць на добры дзесятак метраў. Сыны, праўда, не маюць яшчэ сваіх імёнаў, іх называюць па бацьку, а бацьку клічуць так: «Петрусёў ясакар».

...Ідзе чалавек па зямлі. Цікаўны і назіральны чалавек ідзе па роднай зямлі. Але не толькі прыкметы сённяшняга дня хвалююць, западаюць у яго душу. Што ж, гісторыя краіны, гісторыя роднай зямлі і жыццё народа — адзіны, непадзельны.

Паўнаводны, няўрымслівы, магутны, працавіты і сінявокі Нёман-прыгажун, старажытнае Гродна з Замкавай гарою і Каложскаю царквою... А побач — азотна-тукавы камбінат, мэблевая фабрыка, завод «Электрасвет», жалезабетонны завод, домабудаўнічы камбінат і цудоўныя людзі — будаўнікі камунізма.

Невялікі гарадок Свіслач, радзіма правадыра паўстанцаў Кастуся Каліноўскага і славуты на Гродзеншчыне саўгас «Свіслач»...

І ад сэрца ідуць гордыя словы за свой край, свой народ.

Вёска Ласша, дзе нарадзіўся славуты вучоны-беларусазнаўца Я. Ф. Карскі; Багатыровічы, дзе часта праводзіла летні адпачынак Эліза Ажэшка, саўгас «Рось», гідрастанцыя на Зяльвянцы, пра якую ў свой час пісаў Максім Танк, вёска Рудаўка, радзіма Валянціна Таўлая і адважных змагароў за ўз'яднанне нашага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве; Вялікая Кракотка са славутай сельскай бібліятэкай імя Янкі Купалы, заснаванай яшчэ ў 1927 годзе, шклозавод «Нёман», Навагрудак, Ваўкавыск, возера Свіцязь, славуты дуб каля вёскі Варончы, Карэлічы, песеннае сяло Шчорсы з «дубам А. Міцкевіча»...

І ўсюды аўтар не проста назіральнік, не проста падарожнік, а паўнапраўны і руплівы гаспадар прыгажосці і багацця роднага краю, член таго вялікага калектыву, што завецца грамадствам.

Сустрэчы з людзьмі. Іх было многа, цікавых і нецікавых, выпадковых і чаканых, кароткіх і доўгіх. Запомніліся і тыя, і другія. Ляснік Уладзімір Іванавіч Варапай, адзін з гаспадароў Налібоцкай пушчы... Пушча Лісічанская — прытулак атрадаў К. Каліноўскага, а потым, зусім нядаўна, у часе Вялікай Айчыннай вайны, прытулак народных мсціўцаў. Лесаінжынер Дзмітрый Уласавіч Стральцоў... Высакародная праца нашых леснікоў па аднаўленню і захаванню адвечнай прыгажосці Беларусі, разбуральныя набегі на гэтую прыгажосць браканьераў...

І з-пад пяра аўтара выходзіць страсная песня ў абарону лесу!

Гутарка з механікам цэментнага завода «Перамога» Глебам Лукічом Палуйчыкам, са старшынямі калгасаў «Нёман» В. Усціновічам, «Рассвет» — П. Шчарбаковым...

Чамусьці не горш запомнілася сустрэча з шафёрам падарожнай машыны. Колькі добрых спраў, колькі патрэбных для калгасаў грузаў днём і ноччу, зімой і летам перавозяць працавітыя «газы», «мазы», «зілы», «язы», «палутаркі» — незамянімы ў раёнах транспарт! Перавозяць па цяжкіх, часам неверагодных дарогах! Убачыўшы на абочыне грузавічок, а пад ім — шафёра, мы па звычцы кідаем яму іранічнае: «Загараем, браток?»

«Ёсць у гэтым нешта вельмі несправядлівае і абразлівае...» Горыч аўтара падзяляе і чытач.

Кожная сустрэча не пакідае аўтара раўнадушным.

Гэтая чалавечая ўсхваляванасць аўтара, гэты грамадскі роздум і акрэсленасць яго пазіцый трымаюць у палоне чытача, прымушаюць яго не адрывацца ад кнігі да апошняй старонкі. Кніга ўзнагароджвае чытача вялікім замілаваннем і любоўю да слаўнай, прыгожай і багатай зямлі, дзе ён нарадзіўся і рос. «З усіх дубоў да скону тваіх дзён найбольш жаданым і прыгожым будзе той, што з лесу бліжэй за іншых падступіў да тваёй хаты; з усіх лясоў — той лес, дзе ў далёкім дзяцінстве ты набраў першую конаўку ягад. А на вялікай і прыгожай рацэ ты не знойдзеш нічога мілейшага, чым пясчаны беражок, дзе стаіць твая вёска, і тыя хвалі, што колькі раз з пяшчотай абдымалі цябе».

Кніга вучыць гэтай вялікай чалавечай любві!

Разумеецца, не ўсё паўнацэнна ў добрай кнізе А. Сінілава. Бадай, можна заўважыць, што ёй не хапае шырокага погляду на жыццёвыя з'явы, што ў ёй няма шырокага ахопу жыцця сённяшняй Гродзеншчыны. Што ж, магчыма, хоць, урэшце, «Сцежкамі Прынёмання» — не эпапея, не раман, а толькі сціплыя нататкі падарожніка.

Можна таксама папракнуць аўтара ў тым, што яго кніга навеяна «Уладзімірскімі прасёлкамі» Уладзіміра Салаухіна (чаго, дарэчы, не тоіць і сам аўтар) і што ў некаторай ступені яна паўтарае ці перапявае матывы лірычнага дзённіка рускага пісьменніка.

І ўсё ж справа не ў гэтым. Не гэта вызначае ўражанне ад дарожных нататак А. Сінілава. Галоўнае, што, калі прачытаеш кнігу, цябе доўга не пакідае адчуванне прыгажосці і харaства роднага краю, адчуванне ранішняй свежасці, халоднай расы на босых нагах і сцюдзёнай крынічнай вады ў летнюю спёку.

І міжволі скажаш разам з аўтарам: «...хораша ісці па мяккай травяністай сцежцы, удыхаць водар свежага паветра, бачыць вакол пераможную ўрачыстасць жыцця».

А. Сінілаў. «Сцежкамі Прынёмання». Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1962.

**Генадзь КЛЯЎКО**

* * *

**Пах чаромхі вёску напаіў,**
**І чуваць з адчыненых акон,**
**Як дзівосна сёння салаўі**
**Заспявалі песні у гаі, —**
**Проста не бярэ нікога сон.**

**Пэўна, кожны думае сваё...**
**І кагось настрой апанаваў:**
**Каб не напалохаць салаўёў,**
**Песню склаў ён з самых шчырых слоў**
**І за ўсіх ціхутка заспяваў:**

**«Спі спакойна, любая мая,**
**Хай цвітуць чаромхай твае сны.**
**Аб каханні нашым песні я**
**Навучуся пець у салаўя,**
**Каб не быць ніколі без вясны...»**

## Гомельскі планетарый

**Добры падарунак атрымалі гамяльчане ў пярэдадзень Першамая. У адным з будынкаў ў гарадскім парку культуры і адпачынку закончан мантаж абсталявання планетарыя.**

**У зале, якая ўмяшчае 120 чалавек, зманціравана малая дэманстрацыйная ўстаноўка. Устаноўлена таксама кінаапаратура для паказу навукова-папулярных фільмаў.**



ПЕРШАЕ МАЯ Ў МІНСКУ. Перад трыбунамі праходзіць артылерыя.



На Цэнтральнай плошчы — зводны аркестр Беларускай ваеннай акругі.

Фота Ул. КРУКА.

